—1912. Лістапад. (Наябр.) 8-ая кніжка.




**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

Падпісная цэна на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалоины: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

# Сельска-гаспадарскіе навіны.

## Цэны на сельска-гаспадарскіе прадукты у Вільні.

| | |
|---|---|
| Жыта мейсцовае с фурманак пуд: | 97—98 к. |
| Жыта мейсцовае вагонамі | 99—101 „ |
| Авёс мейсцовы | 85—90 „ |
| Ячмень на крупы | 95—105 „ |
| „ на солад | 125—130 „ |
| Вотрына жытняя | 74—75 „ |
| „ пшанічная | „ —76 „ |
| „ ячменная | „ —85 „ |
| Грэчка | 80—85 „ |
| Горох | 110—130 „ |
| Гарох вікторыя (цукровы) | —160 „ |
| Фасоля | 180—200 „ |
| Цыбуля | 100—115 „ |
| Бульба бочка | 750—785 „ |
| Буракі асьміна (18 гарцоў) | 65—70 „ |
| Морква „ | 80—90 „ |
| Бруква (грыжына) | 70—75 „ |
| Капуста асьміна | 250—300 „ |
| Яец дзесятак | 40—45 „ |
| Сьметана кварта | 32—35 „ |
| Тварогу кварта | „ —15 „ |
| Масла фунт | 42—45 „ |
| Курыца за штуку | 80—150 „ |

Дужа паднялася у Вільні цэна на сьвінное мяса: фунт сьвініны прадаюць у крамах цяпер 23—25 кап. Гэто дзеля таго, што намецкіе купцы зрабілі кантракт з віленскімі мясьнікамі, каб яны што тыдзень дастаўлялі за граніцу 600 штук сьвіньней. Гадоўля сьвіньней можэ стацца у нас з гэтай прычыны даходным сельска, гаспадарскім промыслам, бо цэны на сьвіньней, калі не закрыюць граніцы, будзе з году на год расьці Нашым гаспадаром трэба на гэта зьвярнуць увагу.

З лёнам і маслам спакойна, цэны меней болей трымаюцца такія-як мы падалі у сёмай кніжцы „САХІ“.

Годъ I—1912. Лістап-- (Наябр). 8-я кніжка.

САХА
ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



# Вільня !-го лістапада 1912 г.

Сёлетняя восень па ўсей Беларусі надта неўдалая была: сперша пашлі дажджы, каторые безмала два месяцы гнаілі усё дабро і сена на полі; з гэтай прычыны сёлета шмат дзе не ўдалося сабраць ня тое, што ужо сена, але нават і ярыны. З другога боку дажджы затрымалі работу каля пасеву жыта і шмат гаспадароў позна паатсевалі азіміну. Позна атсеяная азіміна с прычыны ранных марозоў не пасьпела добра уруняць і, мабыць, не аднаму гаспадару прыдзецца атсеваць на вясну азімае поле ярыной.

Адным словам сёлетняя восень неўдалася: корму мала, азіміна дрэнна сабраная с поля.

У тых краёх дзе сельская гаспадарка стаіць высока, гаспадары не пасьвяць скаціны па руні, але у нас гэтаго не прыдзержываюцца, а асабліва гэтай восені не аднаго гаспадара ўзяла спакуса папасьвіць скаціну на руні, каб прыберагчы крыху сухога корму на зіму. Вось-жэ мы тут павінны сказаць, што пасьба скаціны, ўсё роўна, ці коней, ці кароў, ці авец, а асабліва авец, каторые выгрызаюць рунь с карэнямі, гэта благі прадзедоўскі звычай, каторы канечна нам трэба закінуць. Пасьвіць-жэ скаціну у такую восень, як сёлетняя, калі зямля пад нагамі так і гразне, ды рунь скрозь небагатая, гэта проста грэх. Бываюць такіе восені, калі дзякуючы, цёплай, яснай пагодзе жыта лішне урунее і пойдзе у пукі, то каб рунь не памерзла, ці не адпарылася пад сьнягом, можна выпусьціць на замерзшую у груду рунь скаціну, але і то куды лепей скашываць рунь, грабіць і ў хлевах скармліваць яе скацінай.

Мяркуючы па восені, трэба спадзевацца, што на вясну, многа у каго з гаспадароў ня хопіць корму, дык, каб на вясну не дакупляць корму за дарагіе грошы і не паднімаць кароў за хвасты, трэба загадзя абліччыць корм на сколькі штук яго хопіць да св. Міколы. Лішніе штукі, ялавак, перадоек, трэба падкарміць з восені і прадаць на мяса.

Не адзін раз мы ужо пісалі аб тым, што нашы беларусы гадуюць зазвычай больш скаціны, чым могуць перэзімаваць; гэта адна с прычын чаму у нас скатаводзтва не дае даходу. Далёка лепей мець менш, але лепшай скаціны і лепей яе карміць, чым многа, але цягаць яе вясной за хвасты. У добрага гаспадара за зіму не павінна скаціна спадаць с цела. У нас бывае зазвычай так, што зімой скаціна не дае даходу, бо галодная, летам не дае даходу, бо вылізываецца па зіме. А трэба.

каб ці то конь, ці карова круглы год былі сыты і здаровы, то тады і карысць са скаціны будзе.

У прошлай, сёмай, кніжцы „Сахі“ мы друкавалі стацьцю аб новых спосабах сельскай гаспадаркі у Беларусі, у каторай было падлічэна, сколькі каштуе гаспадару пракарміць праз зіму адну карову· Вышло, што сярэдняя селянская карова зьедае корму за зіму на 50 руб. з лішкам, — гэта больш чым яна сама каштуе. Вось з гэтаго навука, што пакідаць на зіму, толькі дзеля гною, многа кароў не варта. На зіму варта толькі пакідаць тых кароў, каторые даюць многа малака і каторые малаком могуць аплаціць, вартасць зімоваго хорчу. Гэтак сама і с конямі: на зіму варта пакідаць, толькі тых коней, каторые патрэбны у гаспадарцы зімой, а рэшту, далёка карысьней прадаць з восені. Вясной, калі узяць тые грошы, што выручым ад прадажы за другое падла і даложым тые грошы, што ён зьеўбы за зіму, то можна куды леншаго каня купіць. Ведама добрых коней распрадаваць, або там, дзе гаспадар можэ мець с коньмі зімой заработак, не варта.

Прышлося нам нідаўна гаварыць з адным практычным гаспадаром нашаго краю і вось гэты гаспадар кажэ, што мы павінны, калі хочэм мець добры даход з гаспадаркі, перш за ўсё узяцца за папраўку нашых сенажацей. Многа гадоў с сенажацей бралі і клалі на поле, але поля таго зазвычай было больш чым навозу, а жывёлы больш чым корму, дык жывёла недаедаючы давала благі навоз і навозу гэтаго, нават благога, не хватало на поле і поле з году на год рабілося менш ураджайным; на сенажаці-ж саўсім не зьверталі увагі і яны саўсім спусткаваліся, так, што цяпер ужо шмат якіе перэсталі радзіць. Каб падняць гаспадарку трэба перш наперш палепшаць сенажаці. Калі нашы сенажаці будуць радзіць добра і мы будзем мець многа корму у гаспадарцы, тады зможэм больш гадаваць, ды сытна гадаваць, скаціну і лепш гнаіць сваё поле. Думка саўсім справядлівая і нельга з гэтым ня згодзіцца, але што-ж зробіш, калі наш гаспадар прывык глядзець на сенажаць, як на дойную карову каторую саўсім ня трэба карміць!

Друкавалі мы нідаўна стацьцю агранома Юлькі з Моладова „Абработка сенажаці“; у гэтай стацьці нашы чытачы, калі патурбуюцца яе добра разабраць, знайдуць многа дужа карысных рад, як трэба даглядаць сенажаці і хай, калі ня ў гэту восень, то на вясну скарыстаюць з іх.

Есць ешчэ у нас адзін благі звычай, каторы дастаўся нам у спадчыне с тых часоў, калі сена можна было касіць, колькі душа жадала,—гэто звычай, што на падсцілку ужываюць у нас саломы. Салому можна скарміць ў трэсянцы каровам, а парэзаўшы на сечку, абпарыўшы і пасыпаўшы мукой, ці заправіўшы бульбай, буракамі, морквай можна скарміць і каровам і коням. На падсцілку-ж трэба ужываць другога якога матэрьялу. Можна на падсцілку ужываць торфу, сухога лісьця, яловых лапак, моху і інш., але салому слаць пад ногі скаціне гэто

глум. Як прыгатаўляць торф на падсцілку мы ужо друкавалі; сухое лісьцё і сухі (канечна сухі, а ня мокры) мох, слаць як і салому, яловые лапкі трэба перад тым як слаць пасеч дробна, на кавалачкі, так у вяршкі 1 — 2 даўжынёй. Тые гаспадары, каторые па колькі год падрад замест саломы слалі пад скаціну торф і яловые лапкі, кажуць, што гной з гэткай падсцілкай быў куды лепшы, як с саломы.

**В. Л.**

# Сельска-гаспадарская навука.

Сельская гаспадарка даўно ўжо перэстала быць работай „на шчасьце", яна сталася навукай дзе кожная рэч, кожнае зьявішчэ мае свае прычыны. Каб добра гаспадарыць у нашы часы трэба ведаць гэту сельска-гаспадарскую навуку. Сеючы зярно гаспадар павінен ведаць, як яно прарастае усходзіць, развіваецца і выдае плод. Толькі калі гаспадар мае патрэбную веду (знаніе) будзе гаспадарыць добра. Прыймаючы усё гэта пад увагу мы пастанавілі, пачынаючы ад гэтаго нумэру „Сахі" тлумачыць нашым чытачом сельска-гаспадарскую навуку.

**Жыцьцё расьлін.** Кожны ведае, што часць расьліны хаваецца пад зямлёй, часць над зямлёй. Над зямлёй расьліна мае *сцібло*, або *наць* пакрытае лісцямі. Тое мейсцо дзе ліст адходзіць ад сцібла называецца „*пазухай*", с пазухі вырастаюць часам і бакавые сціблы, або веткі.

У зямлі расьліна мае карэнь. Бываюць і такіе расьліны у каторых і пад зямлёй вырастаюць сцёблы, але тады тые сцёблы саўсім іншые, не падобные да тых, што бываюць над зямлёй. З нашых расьлін гэткіе сцёблы мае бульба. На падземных сцёблах бульбы і вырастаюць *клубы*, або бульбіны. Калі сьпелае і здаровае зярно пасеяць у зямлі, то з яго вырасьце расьліна, каторая вырасшы, выдасць ізноў насеньне, саўсім падобнае да таго насеньня, каторые мы былі сперша пасеяўшы.

Жыцьцё нашых расьлін можна раздзяліць на колькі узростоў: *прарастаньне* — ад пасеву да першых зялёных лісткоў; *разрост*—ад першых лісткоў да першых красак; *красаваньне*—ад першых красак да завязі і *дасьпеваньне* — ад завязі да збору пладоў. Пасьля таго, як зярно дасьпее нашы расьліны заміраюць. Каб ведаць, як даглядаць і гадаваць расьліну, мы павінны падробна разгледзіць, што трэба расьліне ад прарастаньня да заміраньня.

**Насеньне.** У кожным насеньні, хоць яны і не падобные да сябе, мы знайдем адны і тые-ж асобнасьці. Кожнае насеньне, калі добра разабрацца, мае ў сабе, ў зачатках, цэлую расьліну с карэньнем, сцяблом і лісьцямі; але усе гэтые часткі у насеньні дужа дробные і не падобные да тых жэ частак узрослай

расьліны. У насеньні толькі *зародыш* тэй расьліны, каторую яно спасобна выдаць. На тое, каб з насеньня вышла расьліна, трэба усім часткам зародыша павялічыцца—разрасьціся.

Каб перэканацца у гэтым, трэба узяць якое небудзь зярно, лепей за ўсё вялікае, у каторым асобные часьці ясна можна разгледзіць. Напрыклад зярно бобу, ці гароху. Калі размачыць гэткае насеньне, то з верху лёгка зняць *шэлуху*. Пасьля гэтаго лёгка раздзяліць насеньне на дзьве палавінкі. Паміж гэтымі палавінкамі ў нізу ёсць маленькі *расточак*, — расточак гэто і есць сцібло насеньня с каранём і лісьцямі злажэнымі у маленечкі *пучок*. Гэтак сама і ў другіх расьлінах, хоць насеньне іх і ня будзе падобнае да бобу ці гароху. У пшаніцы, жыта насеньне ня дзеліцца на палавінкі і мы ня здолеем зняць шэлуху, бо яна крэпка прыросшы да сярэдзіны, але калі размочэнае зярно разрэжэм ўдоўжкі, то пабачым у ніжнім канцы даўгаватую зеленаватую плямачку дзе ёсць зародыш. Большая частка кожнаго насеньня утворэна з белаго мучыстаго цела, каторае называецца *насенным бялком*.

Зародыш у зярне не траціць *клёку* (сілы да жыцьця) і пры такіх варунках пры каторых сама расьліна саўсім бы прапала. Зародыш, напрыклад пераносіць даволі вялікую гарачыню і сільные марозы і гэта спасобнасць да жыцьця можэ трываць у зярне доўгіе гады, калі толькі насеньне хаваецца у сухім мейсцы.

Палажыўшы зярно у сырую зямлю, у мокрые рызінкі, ці ў мокрую паперу, мы прымусім зярно прарасьці. Прарастае зярно толькі пры вядомых варунках. Для прарастаньня трэба каб зярно набракло ад сырасьці. Набракшае зярно выпусьціць расток толькі тады, калі яно будзе лежаць ня ў вельмі сцюдзёным і ня ў лішне цёплым мейсцы. Апрача вядомай цеплаты, для прарастаньня патрэбна паветрэ. Бо расьліны, як і чэлавек атдыхаюць паветрэм. Калі набракшае насеньне пакрыем тлушчам, то яно не прарасьце, але загніецца, бо тлушч не дапускаючы паветра задушыць жыцьцё у насеньні.

З гэтаго мы зразумеем чаму гэта ня можна сеяць у сухую зямлю, чаму ня сеюць рана вясной і позна у восень, калі дужа сцюдзёна, і чаму не закрываюць насеньня тоўста зямлёй.

**Прарастаньне.** Калі прарасьце насеньне гароху, бобу, ці іншае падобнае, то перш за ўсё з ніжняй часьці насеньня выпаўзае карашок зародыша, бытцым шнурочак. Пасьля выпаўзае частка сцібла, паміж карашком і палавінкамі насеньня ў верх. Гарбузы, агуркі і др. выносяць свае палавінкі на верх і з іх пасьля вытвараецца першая пара зялёных лісткоў. Пры прарастаньні насеньня жыта, аўса і др., сперша, гэтак сама, выпаўзае карашок, а пасьля ўжо ідзе у гару сцібло завінуўшыся у лісткі, с каторых паяўляецца над зямлёй сперша адзін, як бытцым на зведкі.

Далейшае развіцце расьлін ляжыць у тым, што сцібло і карэнь робяцца даўжэйшымі і таўсцейшымі, што яны разрастаюцца.

Калі на маладых расьлінах пакажуцца зялёные лісьця, то гэта значыць, што час прарастаньня заканчываецца. На тое, каб лісьця зрабіліся зялёнымі патрэбна сьвятло. У часе прарастаньня расток корміцца насенным бялком, бытцым малаком маткі. Гэто паказывае, што ў часе прарастаньня расьліне ня трэба ніякаго пабочнаго корму; сырасць, цяпло і паветрэ—вось і ўсё што трэба расьліне у гэтым часе.

**Разрост.** З маленькаго зерняці расьліна разрастаецца у цэале дрэўцо, у сотню раз большае за тое зярно, што мы пасеялі. Кожная жывёла і чэлавек, каб расьці павінено есці і с корму арганізм бярэ матэрьял на мяса і косьці. Гэтак і расьліна, каб расьці і развівацца, павінна карміцца і, само сабой, тым лепей расьліна будзе расьці і развівацца, чым больш і лепей будзе карміцца. Мы гэта бачым і на практыцы: на благой зямлі вырастаюць слабые і малые расьліны, на добрай буйные і вялікіе, дзеля таго, што у благой зямлі мала корму для расьлін, а у добрай зямлі яго ёсць многа.

Праз усё сваё жыцьцё расьліна мае карэньня ў зямлі, а сцібло і лісця на паветры. Дзеля гэтаго расьліна і корм бярэ не з аднэй зямлі але і с паветра. Каб-жэ пераканацца які корм аткуль бяруць расьліны трэба разгледзіць, што ёсць у расьлінах, с чаго яны складаюцца.

Калі зярно пшаніцы змалоць, зрабіць з тэй мукі цеста і мясіць яго, паліваючы вадой, то с цеста будзе збегаць мутная вада і ў канцы канцоў у руках астанецца клейкі мяккі кусок, не саўсім падобны да цеста. А у мутнай вадзе, што сцекала с цеста, калі ей дамо адстаяцца, асядзе белы парашок. Калі гэты парашок высушыць, то мы убачым, што гэта ня што іншае як *крахмал*. Гэтак можна выпаласкаць крахмал с пшаніцы, з жыта, аўса, ячменя, грэчкі і цёртай бульбы; а ў насеньні лёну і канаплёў заместа крахмалу ёсць алей. У карэньнях буракоў, заместа крахмалу і алею, ёсць цукер, каторы і вываруюць з буракоў, на асобна да гэтаго устроеных фабрыках.

Клейкі кусок, каторы астаецца пасьля прамываньня, называецца *клейкавінай*. Масса падобная да клейкавіны ёсць ў насеньню усіх расьлін і ва ўсіх іх часцях — сцёблах, лісцях, карэньнях. Клейкавіна па свайму складу вельмі падобна да белка курыннаго яйца, або да торагу з малака і, дзеля гэтаго, клейкавіну называюць такжэ *белкавінай*. Калі белкавіну пакінуць сырой на паветры, памешаўшы з паташам і зямлёй, то яна пачне гніць і памалу перэтвараецца у салітру. Крахмал, алей, цукер, калі яны загніюць, ніколі не перэтвараюцца у салітру. Гэтым, глаўным чынам, і розніцца белкавіна ад крахмалу, цукру і алею.

Крахмал, цукер, алей і белкавіна могуць гарэць. Пры гэтым яны сперша перэменяюцца у вугаль. Вугаль—складаецца з газу (чаду) і попелу. Калі згарае вугаль, то газ (чад) раствараецца у паветры і астаецца толькі попел, каторы ўжо спаліць ня можна.

У паветры німа ні крахмалу, ні цукру, ні алею, ні белкавіны, але у зямлі мы знайдзем усё, што ёсць у попеле расьлін і, апрача таго, мы знайдзем матэрьял с катораго можна вытварыць вугаль—вуглярод. У паветры гэтак сама ёсць матэрьял с катораго можна вытварыць вуглярод. У зямлі вуглярод вытвараецца з астаўшыхся у ей карэньнёў расьлін і самых расьлін; у паветры вуглярод знаходзіцца ад згараньня розных расьлін ў печах і на паветры, дзе гарыць што небудзь, што мае вугаль. Чад каторы раствараецца у паветры, як згарае вугаль, называецца *вугальнай кіслатой*. Вугальная кіслата вытвараецца у паветры апрача згараньня вугаля і ад згніваньня мёртвых жывёл і расьлін, бо згніваньне, нічым ня рожніцца ад гарэньня, толькі што згніваючы расьліна перэгарае памалу, часам цэлые гады, а на агні згарае хутко.

Мы ужо ведаем, што пасьля згніваньня белкавіны вытвараецца з яе салітра, з гэтаго мы можэм уцяміць, што каб вытварыць расліне белкавіну, у зямлі павінна быць салітра. Гэтак сама калі у зямлі ня будзе усяго таго, што есць у попеле расьлін, то яны, ня будуць расьці. Апрача гэтаго трэба каб у зямлі быў дастатак вады.

Вось для таго, каб расьліны добра расьлі і развіваліся канечна патрэбна:

1) Каб у паветры быў вуглярод, каторы бывае заўсёды у паветры, ў кшталце (газу-гаду) угльнай кіслаты.

2) Каб у зямлі была салітра.

3) Каб у зямлі была вада.

4) Каб у зямлі было усё, што знаходзіцца у попеле пасьля спаленай расьліны.

З вуглявой кіслаты, с салітры вады і з усяго, што ёсць у попелі, вытвараюцца расьліны, каторые у свой чарод маюць у сабе крахмал, белкавіну, цукер, алей. Жывёла, зьедаючы сена перетварае яго на косьці, мяса, сала. Сена корм жывёлы; *салітра, усё што ёсць у попелі, вада, вугляны квас, гэто корм расьлін.* Апрача корму расьлінам канечна патрэбна ешчэ сьвятло,—без без сьветла яны ня могуць карміцца. Другі варунак, канечна патрэбны для узросту расьлін—гэто цеплата. Калі расьлінам лішнэ цёпла, або лішне зімна, яны дрэнна, або і саўсім перэстаюць расьці. У канцы, для добраго узросту расьлін, канечна патрэбна паветрэ, дзеля таго, што расьліны ня толькі бяруць часць корму с паветра, але і дыхаюць ім. Сцябло лісьці заўсёды маюць паветра ў доваль, але паветрэ патрэбна, ня толькі сцяблу і лісьцям, але і карэньням.

Дзеля гэтаго расьліны лепей за ўсе растуць на рыхлай зямле, ў каторай ёсць вольны праход для паветра. З гэтай-жэ прычыны нашы гаспадарскіе расьліны ня могуць расьці на замлях крэпка убітых, заскарузлых і саўсім мокрых, ў каторых усе прадушыны пазатыканы, або заліты вадой.

З гэтаго бачым, што расьліны будуць добра расьці толь-

кі тады, калі яны будуць мець да сыта корму, сьветла, цепла і калі будзе паветрэ каля карэньнеў.

Трэба памятаць, што корму расьліны павінны мець дасыта, але не праз меру. Калі-б у зямлі было лішне многа салітры, або чаго небудзь аднаго, што ёсць у попелі, то расьліны расьлі-б дрэнна; лішкі аднароднаго корму шкодзяць расьлінам, як і чэлавеку. Усе патребные варункі для узросту расьлін павінны быць дадзены адначасна; калі гэтаго ня будзе, то расьліны растуць дрэнна, ўсё роўна, аднаго ці чаго нехватае, ці ўсяго разам. Калі-б, напрыклад у зямлі было усяго гэтак многа, што хапіло-бы на ураджай з дзесяціны па 100 пудоў зерна, але салітры былоб толькі на 50 пудоў зерна, то і ураджай з гэтай зямлі ня мог-бы быць большы, як 50 пудоў з дзесяціны. Уся лішка другога корму асталася-б у зямлі без ніякай карысьці. З гэтаго відаць, што ураджай залежыць ад таго, чаго у зямлі ёсць найменш. Аб гэтым пагаворым ешчэ, пры аддзелі аб гнаеньні.

Калі расьліны маюць усё патрэбнае да узросту, то яны разтаюцца і павялічываюцца. Разрост іх пацвялічываецца ня увесь час аднастайна. Сперша яны растуць даволі ц.ха, пасля рост іх становіцца ўсё хутчэйшы, пасьля ён слабее, а ў канцы і саўсім расьліна замірае. Найбольшы разрост прыпадае на час ад другой пары лісткоў да першых красак. З гэтаго мы можэм вывесьці, што жыцьцё расліны можна ешчэ раздуяліць на два пэрыоды: час разросту, калі расьліна разрастючыся збірае і запасіць сокі і час дасьпеваньня, калі расьліна перэстае працаваць над сваім разростам, а усе сілы зварачывае, на тое, каб вытварыць здаровае і сільнае насеньне.

**Красаваньне, сьпеласць.** Красуюць расьліны тады, калі яны ужо саўсім разрасьліся, толькі такіе расьліны, каторые маюць многа красак, якіе каторые што вядомы час распускаюцца, расьліна разрастаецца і пасьля таго, як пачала красаваць. У адных расьлін краскі відаць здалёку, у другіх, як, напрыклад, у нашай збажыны, каб убачыць краскі трэба добра такі прыгледзіцца.

Верхніе лісточкі красак, гэто не разродные часці краскі, а толькі яе зверхняя апратка. Разродные часьці краскі схаваны ў сярэдзіне яе; часці гэтые бываюць дваякіе; адны, каторые лежаць бліжэй, яны складаюцца с тоненькіх нітачак, на канцы каторых ёсць торбачкі з дужа дробненькімі крупінкамі, каторые называюцца *красковых пылам*. Калі краска дасьпее торбачкі гэтые покаюцца і пыл з іх высыпаецца. Краскавы пылок, гэта ня што іншае, як мужское насеньне краскі. У часі калі красуе жыта, то пылок гэткі, пры ціхім ветры курыцца, бытцым дымок, над полем.

У самай сэрцавіне краскі ёсць тая часць яе, у каторай пасьля развіваецца насеньне, Часць гэта называецца *маткай*. У нізе матка шырэйшая і гэта часць яе называецца *завязьзю*, у завязі бывае адно ці колькі штук, дробненькіх яечак (прос-

тым вокам іх нельга дагледзіць), с каторых, пасьля, калі пападзе на іх пылок, вытвараецца насеньне (зярно). Вышей ад завязі ідзе часам кароткая, часам доўгая, трубачка — *лейка.* З верху лейка расшыраеецца, часам бывае яна махнатая, часам заканчываецца лапатачкамі каторые утвараюць лычок. Калі дасьпевае краска, то лычок робіцца клейкім, а калі на яго упадзе краскавая пылінка, то яна прыліпае. Тут яна набракне і спускаючыся па лейцы ў завязь даходзіць да яечак. Калі пылінка даторкнуецца да яечка, тады пачынае з яечка вытварацца зярно („наліваць зярно“). Яечкі, гэто жаноцкі орган краскі. З гэтаго мы бачым, што расьліны размнажаюцца, так сама як і жывёла, ад злучэньняся мужского і жаноцкаго семя.

Пасьля таго як пачне зярно наліваць, краскі вянуць, бо яны ўжо больш не патрэбны для расьліны. У гэтым часе расьліна ўжо мала бярэ корму з зямлі, большую частку сокоў патрэбных да таго, каб выдаць зярно, бярэ з сцібла і лісця, перэтварае тые сокі, каторые прызапасіла ў часе разросту.

Калі насеньне (зярно) дасьпее, то расьліна заміраё, лісця адваліваецца, а сцібло робіцца цьвёрдым, лыкаватым. Дзеля гэтаго салома саўсім дасьпеўшаго збожжа мала пажыўная для скаціны, гэтак сама і сена, калі яго косяць не ў часе красаваньня, а пасьля, мае мала пажывы ў сабе.

**Сьмерць.** Салому, лісьця, насеньне гаспадар звозіць с поля, а карэньня і жніўё астаецца на полі. Тая частка ураджаю, што звёз гаспадар дамоў, зьедаецца людзьмі і скацінай, і як навоз пасьля ізноў вывозіцца на поле. Жніўё астаўшыся на полі, спачатку робіцца шэрым, крохкім, а пасьля і саўсім прападае, як бытцым яго і не было. Куды-ж яно прапало? Кажуць,—згніло.

Калі расьлінные, або жывёлавые астаткі згніюць на паветры, то з іх вытвараюцца тые самые рэчы, чым кормяцца расьліны. Пасьля згніваньня, с тых мінералоў, што расьліна узяла з зямлі; остаетцца попел, белкавіна перэтвараецца у салітру, вугаль згараючы перэтвараецца у вугальную кіслату, каторую расьліны бралі с паветра. Адным словам, як кажуць па вучонаму, раздзеляецца на сладные *элемэнты.*

Калі расьлінные, або жывёлавые астаткі гнілі-б бяз доступу паветра, то з іх, апрача попелу, нічога не асталося-б годнаго на корм расьлінам. Дзеля гэтаго гаспадар павінен пілнаваць, каб расьлінные астаткі згнівалі пры доступе паветра. Як гэта рабіць мы вытлумачым пазьней.

**Лемеш.**

---

# Як дагледаць скаціну.

Мала накарміць толькі скаціну, але трэба ведаць — як яе карміць, як дагледаць яе, як гадаваць.

Кожная скаціна выпаўняе сваё назначэньне толькі тады, калі яна саўсім здарова. Каліж скаціна дрэнна есць, перэстае жваць жвачку, стогне, больш ляжыць, мала пьець вады, кульгае, закрывае вочы, пацее, дрыжыць і т. п., то кожны гаспадар скажэ, што ягоная скаціна хвора і пастараецца неяк памагчы.

Прычын хваробы скаціны дужа многа. Адны с прычын гаспадар можэ саўсім адвярнуць, другіе прычыны аслабіць, а многа ёсць такіх с каторымі ён сам, бяз дохтора нічога ня зробіць.

Напрыклад: адна скаціна захварэла ад нясьвежаго, загніўшаго пошыру; другая захварэла ад падвеву у хлеві; трэцяя заразілася і пала ад сібірскай хваробы. Само сабой у першым і другім прыпадку, перш за ўсё трэба адвярнуць прычыны, якіе вызвалі хваробу: пріняць дрэнны пошыр і даць добры, сьвежы, каб не падвевало, пазатыкаць дзіркі у хлеві і замазаць глінай. У трэцьцім-жэ прыпадку, трэба было раней прышчапіць сібірскую хваробу скаціне, як прышчэпляюць воспу людзям. Ведама, ёсць такіе хваробы с каторымі ваевацъ дужа цяжка, ды і адвярнуць іх чэлавек ніяк ня здужае: напр. сап у коней.

Дзеля гэтаго, каб крыху памагчы гаспадару разабрацца у гэтым мы прагледзім па чародзе як трэба берагчы здароўе скаціны і як дагледаць яе.

**Прастуда**. З усей гаспадарскай жывёлы коні найлягчэй прастуджываюцца, с тэй прычыны, што у іх тонкая скура і кароткая поўсць. Авечкі пасьля стрыжкі, лягчэй прастуджываюцца, як да стрыжкі. Менш за ўсё баяцца прастуды каровы, дзеля таго, што у іх тоўстая скура і сьвіньні, каторых грэе сала.

Скаціне найздаравей калі яна знаходзіцца ня ў лішне гарачым і не ў саўсім сцюдзёным паветры. У часе жары і упалоў скаціна робіцца вялай, дрэнна есць, але пьець шмат вады, с трудом перэстаўляе ногі. Гэткі ўплыў упалоў можна бачыць ня толькі на рабочай скаціне, але і на каровах, каторые у часе жары даюць менш малака, а то і блізка што саўсім зарываюць. Пры дужа вялікіх упалах бывае, што скаціна і саўсім падыхае ад сонечнаго удару.

Ведаючы усё гэта, гаспадар павінен зрабіць усё каб адвярнуць благі ўплыў жары. Дзеля гэтаго у жару трэба скаціну абліваць сцюдзёнай вадой, а калі ёсць змога, то і купаць. Да піцьця даваць чыстую сцюдзёную ваду, але глядзець за тым, каб у часе піцьця скаціна не была ўспацеўшай.

Калі вялікіе упалы бываюць, то скаціну у поўдзень трэба заганяць куды небудзь у засень; на гэта лепей карыстацца засеняй на аткрытым паветры, чым душнымі хлевамі. У хлевах у часе жары скаціна ня толькі што не адпачыне, але ешчэ больш змучыцца ад сьмярдзючаго, затхлаго паветра і душнаты.

Холад ешчэ больш можэ зрабіць шкоды у здароўі скаціны чым жара. На холадзе, а асобенна на ветры, весеньню, або зімой, скаціна дужа лёгка прастуджываецца.

Калі ўспацеўшаго каня пасьля работы, або пасьля доўгай язды паставіць на холадзе, то ён лёгка можэ захварэць: паявіцца кашэль, колька, псуюцца ногі, бо конь дастае рэматызму.

Каб усцерагчы скаціну ад прастуды трэба высьцерэгацца:

1) Каб не ставіць ўспацеўшаго каня у хлеў, а накрыўшы гунькай вадзіць у руках датуль, пакуль не перэстане парыць.

2) Калі снаціна была пад сцюдзёным даждҗом у рабоце, ці ў яздзе, то, перш чым ставіць у хлеў, трэба выцерці харашэнька усё цела саломай, ці суконкай, а асабліва добра выціраць ногі.

3) Не даваць успацеўшай скаціне вады; не ставіць на ветры і на падвею.

4) У вялікі вецер з марозам, лепей не ганяць маладой скаціны паіць зімой, а даваць піць у хлеві.

5) Не пускаць скаціну на мёрзлы зялёны корм.

Апрача прастуды на здароўе скаціны ўплываюць і другіе прычыны: нячыстае, папсаванае паветрэ, пыл, заразные хваробы.

Кожны ведае, што чэлавек можэ жыць і быць здаровым, у такім будынку дзе німа ніякаго чаду, ні шкоднай пары. Гэтак сама і скаціна будзе здаровай толькі тады, калі дыхае чыстым паветрам. Дзеля гэтаго трэба звертаць увагу, каб у хлевах не было смораду — чаду; чым чысцейшае паветрэ, тым лепей выглядае скаціна, тым яна здаравейша. Скаціна у хлевах с чыстым паветрэм лепей есць корм; коні дужэйшые, а каровы болей даюць малака.

Дужа шкодзіць на здароўе скаціны і пыл. Дзеля гэтаго трэба высцерэгацца даваць пыльны корм, дзеля таго, што ад пылу скаціна пачынае хварэць на вочы, горла і пачынае кашляць. С пылам лягчэй перэдаюцца і розные заразные хваробы.

Найбольш увагі трэба звярнуць, каб берагчы скаціну ад заразных хвароб. Трэба памятаць, што ёсць хваробы, каторые цяпер дужа цяжка вылечыць і дужа небаспечные для людзей, напр. сап у коней і шал усякай скаціны.

Прычынай заразных хвароб служаць асобные, дужа дробненькіе жывучкі, каторых, па вучонаму, называюць *мікробамі.* Яны гэткіе дробненькіе, што іх убачыць можна толькі праз павялічываючые шклы, што завуць *мікроскопамі.* Даведаліся, што кожную заразную хваробу вызываюць, асобные для кожнай хваробы мікробы.

Зараза з аднаго боку разносіцца і расшыраецца ветрам разам с пылам, а з другога боку хворай скацінай.

Як-жэ берагчыся ад заразы?

Каб усцерагчы сваю скаціну ад заразы, трэба выпаўняць гэткіе варункі:

1) Чым-бы скаціна не захварэла, трэба яе як можна хутчэй аддзяліць ад здаровых. Корм і ваду хворай скаціне трэба даваць у асобным мейсцы і з асобнай судзіны.

2) Пры астаноўцы у заездах, на кірмашах, ў гарадох, трэба паіць заўсёды са свайго ведра. Не ставіць у заездах

коні да чужых ясьлёў, а лепей карміць с калёс, бо коні найчасьцей заражаюцца сапам у дарозе, па заездах.

3) Пасьля таго, як здохне скаціна ад якой заразнай хваробы ніколі ня трэба знімаць скуры, каб не разнасіць заразы і самому не заразіцца.

4) Ніколі не выкідаць падла на поле, а трэба закапываць і то ня дзе блізка каля сялібы, а недзе у полі далей ат хаты Калі скаціна здохла ад заразнай хваробы, то падла трэба закапываць у зямлю на сажэнь глыбінёй, каб не дасталі ваўкі і сабакі і не разнасілі заразы.

5) Той будынак у каторым здохла скаціна ад заразнай хваробы, трэба 2 тыдні праветрываць, не пускаць туды здаровай скаціны; дзьверы дзержаць аткрытымі каб сонцэ даходзіло. Калі у будынку быў сапны конь, або шалёная скаціна, то ясьлі і сьцены трэба выбеліць вапнай. Збрую змазаць дзёгцям і не надзеваць колькі часу на другіх коней. Мала вартые рэчы, як павады, аброці, лейцы, лепей саўсім спаліць.

6) Мейцо дзе лежала падла заразнай жывёлы і цялежкі на каторых вывозілі трэба абмыць чорнай карболкай.

Апрача апісаных тут спосабоў сьцерагчыся заразы учоные людзі прыдумалі спосаб аберагчы скаціну, каб не хварэла на сібірскую хваробу (язву) і каб сьвіньні не хварэлі на „рожу“, ад катораў што году многа іх падыхае. Гэто робіцца пры помачы прышчэпкі.

Прышчэпкі гэты называюцца аберегацельнымі, дзеля таго, што яны аберэгаюць скаціну ад заразы. Гэтак прышчэпка сібірскай заразы аберегае скаціну цэлы год,—цэлы год аберегае і сьвіньней прышчэпка ад рожы.

Авечкам апрача сібірскай заразы прышчэпліваюць ешчэ і воспу, а ў апошніе часы знайшлі прышчэпку ад золзы у жэрэбят.

**Л. Андреенко.**

---

# Як карміц кароу.

У гэтай стацьці хочэм пазнаёміць чытачоў з дацкім спосабам кармленьня кароў, каторы цяпер лічыцца і ў нямеччыне найлепшым спосабам.

Ня будзем казаць шырока аб тым, што гадуючы кароў, каб мець добры, даход, трэба умець іх добра і сытна карміць, як гэта і кожнаму з нашых гаспадароў добра ведама.

Асновай дацкаго спосабу кармленьня кароў служыць выробленая многалетняй практыкай, гаспадарская кармавая адзініца, каторая складаецца з аднаго фунта мешаніны align="" рознаго зерняці ў груба перамеленай форме.

Усе другіе кормы, калі прыраўняць да гэтай кармавой адзініцы будуць мець вось якую кармавую вартасць:

Аднаму фунту хлебнай мешанкі раўняецца:

2 ф. канюшыннаго сена.

$2^1/_2$ ф. лугавога сена (добраго).

4 ф. яравой саломы.

10 ф. буракоў.

4 ф. бульбы.

8 ф. морквы.

Укладаюць порціі датчане проста, без усякіх „хімічных норм“. Яны даведаліся, доўгай практыкай, што для паддзержкі арганізма каровы на кожные 100 фунтоў жывой вагі патрэбна адна кармавая адзініца (значыць: або 1 ф. зернавой мешанкі, або 2 ф. канюшыны, або $2^1/_2$ ф. сена і т. д.) і на тое, каб карова вырабіла 3 ф. малака, гэтак сама патрэбна адна кармавая адзініца; кіруючыся гэтым датчане кормяць акуратна сваіх кароў і маюць з іх вялікую сабе карысць.

Карміць кароў і вылічаць ім корм трэба гэтак: кароў трэба раздзяліць на гурткі, мяркуючыся сколькі каторая дае малака. Дзяліць кароў трэба гэтак:

Да першаго гуртка залічыць кароў ялавак, але цельных і перадоек каторые даюць да 6 фунтоў малака у дзень.

да 2 группы з удоем ад 6 да 12 фунтоў малака.
„ 3 „ „ „ 12 „ 18 „ „
„ 4 „ „ „ 18 „ 24 „ „
і т. д.

Для ўсіх гэтых гурткоў павінна быць вылічэна аснаўная порція.

Порція вылічаецца чыста гаспадарскім расчотам і гэтак, каб у порціі, на кожны пуд жывой вагі карова мела 1 фунт грубога корму.

Перад тым, як вылічаць аснаўные, агульные для ўсяго стада порціі, трэба перш падлічыць увесь запас корму у гаспадарцы, а пасьля ужо разлічыць гэты запас так, каб яго хапіло на ўсю зіму і прадвесьне.

Скажэм, што мы вылічылі, што можна даць ў сярэднім на карову (22 пуды жывой вагі) у дзень:

| | |
|---|---|
| Канюшыны | 10 фун. |
| Ярай саломы | 15 фрн. |

Гэто будзе грубаго корму 25 фунтоў, а кармавых адзініц 9.

У гэтым прыпадку порція сярэдняя. Але калі-б гэта порція аказалася мала сытнай, то трэба дадаваць хлебнаго корму. Цяпер астаецца толькі назначыць кожнаму гуртку прыдатковы корм, каторы павінен складаецца з мешанкі хлебных зернят у груба перамолатай форме, і часьцю з бульбы, буракоў, морквы.

1 гурток павінен даставаць 1 ф. мукі і 1 адзініцу корнеплодоў.

2 гурток—2 ф. мукі і 2 адзініцы корнеплодоў.

Калі корнеплодоў гэтым двом гурткам даваць нельга, то замяніць іх адным фунтам мукі.

3 гурток павінен даставаць 3 ф. мукі і 2 адзініцы корнеплодоў.

4 гурток — 5 ф. мукі і 2 адз. корнеплодоў; 5 гурток—7 ф. мукі і 2 адз. корнеплодоў і т. д., дадаючы толькі мукі.

Калі многа у гаспадарцы садзіцца буракоў, бульбы, морквы, то для малочных кароў карысна даваць больш гэтаго корму, але не зменшаючы мукі. Корнеплоды трэба скармліваць сырымі, парэзанымі машынкай да гэтаго, або пасечэные секачом.

Ня лішне дарага абходзіцца у Беларусі пасадка бульбы, дык яе трэба больш сеяць на корм скаціне. Апрача бульбы дужа добрая на корм дойным каровам морква. Гэтак сама трэба звярнуць увагу нашым гаспадарам на пасеў вікі з аўсом на зярно, дзеля таго, што гэта важны корм для малочных кароў і абходзіцца ня лішне дарага. Ураджаі зерна ярай чорнай вікі з дрэннай, спуставанай зямлі бываюць сярэднім ад 80 да 105 пудоў з дзесяціны.

Карміць скаціну трэба роўна праз усю зіму і канечна на вагу: грубы корм, сена, салому важыць адразу на усё стада, а зернавы корм і каранішчы мерацьна кожную штуку асобна, прыладжэнымі да гэтаго меркамі. Пры гэткім парадку у кармленьні і корму менш выходзіць і скаціна больш карысьці гаспадару прыносіць.

**В—т.**

---

# Выроб зямлі пад капусту.

Хто хочэ мець вялікую галоўчастую капусту, ніхай зямлю прыгатаўляе гэтак:

З восені, у Кастрычніку, да марозоў ніхай забаранue тую зямлю, што хочэ засадзіць капустай і вывезе сьвежаго, добраго гною с пад кароў. Пасьля гэтаго, перш-на перш выкапае на два штрыхі глыбінёй, а пядзі на тры шырынёй роў. Капаючы роў, верхнюю рабочую зямлю (глебу) аткідаць у асобные кучкі, а споднюю—дзікую (падглебе) асобна складаць. Каля таго рову, поруч, капаецца другі такій-жэ роў і з яго кідаецца верхняя земля на спод першаго рову, с канца ў канец. На верх тэй зямлі пасьцілаецца гной і засыпаецца, сподней дзікай зямлёй. Пасьля, гэтак сама, капаецца трэці роў, чацьвёрты і т. д. Адным словам, верхнюю зямлю трэба перэвярнуць у ніз, на яе наслаць гною, а на гной дзікую зямлю.

Перэкапаўшы зямлю, апасьледні роў трэба засыпаць тэй зямлёй, што была зложэна у кучкі ад першаго рову. На вясну, перад пасадкою капусты трэба зямлю перэкапаць рыдлёўкай з верху, не выварачываючы гною і калі земля нізкая то пара-

біць рыдлёукай разоры, для спаду вады. На высокай зямлі, на пяску, разор ня трэба рабіць, бо земля у загонах будзе высыхаць з верху і бакоў, і калі дошч пойдзе, то ён не прамачыўшы з верху загона, збяжыць у разору. На высокай зямлі, заместа разоры, пратаптываюць даро́жкі і па канцах іх ўбіваюцца калочкі, каб ведаць дзе зроблена даро́жка. Расаду садзіць трэба рэдка, на $^3/_4$ аршына сцібло ад сцібла. Лепей садзіць „*бруншвейскую*“ расаду: яна добра расьце і на пяску. Калі вырубаюць капусту, то канешне трэба вырываць карэньне (качарыжкі), каб не завяліся у зямлі мікробы, ад каторых на другое лета на капусці паробяцца кілы і капуста прападзе. На адным мейсцы можна садзіць капусту два гады, на трэці рок буракі, моркву і т. п. Карысна пасыпаць зямлю попелам с печы, сажай, птушачым гноем і прыорываць або рыдлёукай перэкапаць.

**Дзед Міхась.**

## Перэзімоука прымерзшай бульбы.

Прымерзшую бульбу няможна капцаваць звычайна, бо згніе. Каб не згніла найлепш яе „заквасіць“. На гэта капаюць яму на сухім, высокім мейсцы, дзе вада не падойдзе. Яма павінна быць глыбінёй на адзін аршын, шырока на два і доўга на якіе 4—5, або як патрэба. Баке ямы трэба, каб былі зусім просты, а то будуць абваліваццa. Бульбу у кошыках трэба абмыць з зямлі і ссыпаўшы у яму там рассекаць рыдлёукай, а ешчэ лепш секачом, так, каб кожна бульба была рассечэна на якіе 2—3 часьці. Тады туга прыбіваць таўкачом. Калі убітай гэтак бульбы будзе грубіні на якіе 6 цалёў — прысыпаць сечкай, ці мякінай на 2 цалі, прыбіць добра і зноў сыпаць бульбу — разсекаць і прыбіваць. Верх зрабіць, як дах, — каб вада сцекала; пакрыць па верху сечкай, прыбіць і засыпаць зямлёй. Зямлі павінна быць на верху грубіні на аршын і добра прыбітай. За гэтымі капцамі трэба наглядаць і як толькі пакажэцца шчыліна, ці дзіра зараз засыпаць і цэлы капец прыплюшчыць, каб паветра у сярэдзіне не было. Калі паветрэ у капцу, бульба будзе гніць. Такой заквашэнай бульбай можна карміць уселякую жывёлу. Як квасіцца бульба можна да яе дадаць солі,— 1 фунт на пуд бульбы, але гэта толькі дзеля таго, што скаціна лепей есць прысоленую бульбу. Бяз солі бульба таксама добра квасіцца.

**Г. І.**

## Гатункі (асортымэнт) фруктовых дрэў для Міншчыны В. Рыбскаго.

В. Рыбскі дзеліць Міншчіну на 2 часці: полуднёвую—слуцкі, навагрудзкі, бабруйскі, мазырскі і пінскі; паўночною: мінскі, барысоўскі і ігуменскі паветы.

## Асортымэнт для палудзеннай часьці:

**Яблакі летніе:**

1. Наліў чырвоны
2. Наліў белы
3. Папероўка белая
4. Папероўка жоўтая
5. Грушоўка вялікая
6. Рэпка сахарная

**Яблакі восенные:**

1. Кронсельскіе
2. Мірон ржэвскі
3. Баравінка
4. Тітоўка
5. Цукровае літоўскае
6. Ананаснае белае
7. Путіўка

**Яблакі зімовые:**

1. Антоноўка
2. Пепінка літоўская
3. Каштэля
4. Рэнэт касэльскі
5. Каралева рэнэт
6. Ренэт ляндзбэрга
7. Серынька (струмілоўк.)
8. Бабушкіно
9. Сінь тілліш
10. Аныж аксамітны
11. Княжэскае
12. Монтвілоўка (граф. Ностіц)

**Іґрушы летніе:**

1. Малгажатка
2. Якубоўка
3. Помэранчавая
4. Фруктоўка (едвабніца)
5. Безсемянка
6. Масляная ліфляндзкая

**Іґрушы восенные:**

1. урбаністка (бэра коліома)
2. бэра ульмская
3. доктор Iules Guyot
4. эспэрынка
5. добрая людвіка
6. салісбуры
7. бэргамота восенная
8. вінёўка

**Сьлівы:**

1. Вэнгерка звычайная
2. вэнгэрка італьянская
3. кірка
4. каралева Вікторыя
5. рэнклод Бодэрта
6. рэнклод Улена
7. рэнклод Альтона
8. рэнклод зялёны
9. котэ пэр.

**Вішні:**

1. Владзімірскіе
2. Монмарансі
3. морэль галандзкая
4. каралева Гортэнзія
5. шклянка ружовая

## Асортымэнт для пауночнай Міншчыны.

**Яблакі летніе:**

1. Наліў белы
2. наліў чырвоны
3. папероўка чырвоная
4. папіроўка жоўтая
5. рэпка цукровая.

**Яблакі восенные:**

1. Цітоўка
2. баравінка
3. аркад
4. путівка.

**Яблакі зімовые:**

1. Антоноўка
2. пэпінка літоўская
3. монтвілоўка (гр.Ностіц)
4. каштэля
5. бабушкіно
6. сінь тішліш.

**Ігрушы летніе:**

1. Цукровая
2. малгожатка
3. фунтоўка (едвабніца).

**Ігрушы восенные:**

1. Вінёўка
2. безсемянка
3. бэргамота восенная
4. бэра ліфляндзкая.

**Сьлівы:**

1. Рэнклод Улена
2. рэнклод зялёны
3. каралева Вікторыя
4. мірабэля ранная
5. monsieur Hatif.

## ЯК ХАВАЦЬ ФРУКТЫ.

Найлепей хаваць у сухіх скляпох, гдзе стаіць роўная тэмпэратура (цеплата), трэба часта перэглядываць і гнілые выкідаць.

Зімовые і восенные фрукты трэба спачатку ссыпаць у халодны склад, каб яны выпацелі, а потым абцёршы да суха кожнае яблака, грушу перэлажыць у сухі склеп; дарагіе гатункі завярнуць у паперу, кожны асобне, рэдка разлажыць. Калі цёплая пагода, склеп трэба праветрываць. Больш моцные гатункі можна складаць у бочкі с пяском ці попелам. Грубые гатункі можна сыпаць у яму, перэкладываючы саломай і засыпаючы зямлёй.

*Школа садоводзтва.* **Янук Крыуда.**

## Макрэц у коней.

Заводзіцца гэта хвароба праз неахайносць гаспадара, калі конь стаіць у багне, або ходзіць па багне, па мокры і ніхто каню ног не выцірае. Прычына хваробы —маленькіе мікробы, каторые плодзяцца пад скурай, калі яна патрэскаецца ад сырасьці. Сперша начынае чырванець скура на задняй часьці пута над капытом. Пасьля зьяўляюцца ранкі і усё збольшываецца іх. Конь пачынае кульгаць. Трэба зразу абмыць чыстой вадой з мылам хворую нагу, а пасьля апаласкаць вадой у какорай распушчена борная кіслата Калі макрэц сухі, то пасьля гэтаго раніцай і вечэрам трэба націраць нагу мазьзю с 15 часьцей гліцэрыны і 1 часьці сіняго каменя, або з 20 часьцей вазэліны і 3 часьцей сьвінцоваго цукру. А калі макрэц сыры, мокры, то трэба мазаць нагу раніцай і на нач цынковай мазьзю. Хвароба гэта упорная. Калі ногі вылояцца, то ешчэ і пасьля трэба мазаць іх нейкі час вазэлінам, каб хвароба не вернулася.

**(Хлібор).**

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня